Цана асобнага нумару 800 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточ. дзен. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 9000 м. п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на 4 страніцы 600 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 1 Аўторак, 5-га чэрвеня 1923 г. Год I.



## „Наш Сьцяг.“

У цяжкую часіну для народу беларускага выступаем мы з „Нашым Сьцягам“.

Гаворадь аб гэтым скаргі з месц, дзе кожын дзень робяцца там крыўды, арыштовываюцца ў нічым непавінныя беларускія культурныя працаўнікі, зачыняюцца школы і г. д. Беларуская працоўная гушча стыхійна хапаецца за вызваленьне социяльнае і нацыянальнае, сустракаючы моцны адпор ад некаторых крэсовых адміністратараў — „kacyków“.

Быў мамэнт, калі здавалася, што новы, ясны дзень пачынаецца для нас пад уладай Польскага гаспадарства. Гэта было зара пасьля выбараў у варшаўскі Сойм і Сэнат, пасьля нашае вялікае нацыянальнае пабеды. Усе спадзяваліся, што Польскае гаспадарства будзе лічыцца з голасам нашых выбранцаў, што яно захоча самахоць зьдзейсьніць тое, што дэклярована „нацыянальным меншасьцям“ канстытуцыяй Польшчы. Куды там! Ні прэзыдэнт Рэспублікі, за якога нашы паслы падавалі свае галасы, як за кандыдата польскае дэмакратыі, ні прэм'ер Сікорскі — адзін з найбольш выдатных „пілсудчыкаў“, каторы суліў нам залатыя горы, ня споўнілі таго, на што мы мелі поўнае права спадзявацца. Цяпер улада перайшла ў рукі „правых,“ і тут, ведама, нават і аб якіх-колечы спадзяваньнях ня можа быць гутаркі.

Мы знаходзімся напярэдадні мо' новых выпадкаў, новых крокаў улады, скіраваных проці беларусаў. Польская „дэмакратыя“ толькі прыкрывала свой зоолёгічны нацыяналізм фігавым лістком дэклямацыі аб роўнасьці ўсіх нацыяў пад панаваньнем „найдэмакратычнейшае“ у Эўропе рэспублікі... Эндэкі гэны лісток адкінуць: ім няма патрэбы засланяць сваю нагату, бо-ж хворасьць яе і так усе ўжо бачылі і бачуць.

У такія часіны, як перажываныя нашым народам цяпер, у часіны пагрозаў самаму нашаму нацыянальнаму істнаваньню першай і галоўнай нашай задачай павінна стацца зьдзейсьненьне кліча: „Будзьма сільнымі!“ Будзьма сільнымі сьвядомасьцяй сацыяльнай і нацыянальнай, будзьма сільнымі арганізаванасьцяй і культурнасьцяй,— і такое сілы ня здолее зламаць ніякая варожая моц.

Гэты кліч мы і напішам на Нашым Сьцягу. Мы напішам на ім нашы найсьвяцейшыя ўсенародныя ідэалы побач з сусьветнымі ідэаламі працоўных масаў, што павінны служыць нам пуцяводнай зоркай і з найвялікшае палітычнае блытаніны вывядуць нас у канцы канцоў на правільны шлях. Мы будзем увесь час напамінаць нашым братом аб іх грамадзкіх абавязках, будзем будзіць зо-сну тых, хто пад навалай крыўд губляе веру ў лепшую будучыну, губляе энэргію і, апусьціўшы ў зьнемажэньні рукі, пагразае ў ціне будзёншчыны.

„Гэй, наперад, покі сэрца
„Б'ецца, рвецца на прастор!
„Годзе млеці ў паняверцы,
„Гэй, да сонца! Гэй, да зор!“



## Наступ капіталу.

Ольда.

I.

Прычынай датыхчасовага гаспадарчага разьвіцьця Польшчы зьяўляецца інфляцыйная скарбовая палітыка. З прычыны няўпыннага спадку маркі польская прамысловасьць забясьпечана ад канкурэнцыі з краямі з высокай валютай на ўнутраным рынку, з другога боку, можа канкурыраваць на заграцічных рынках,

Гэтай-жа прычыне трэба прыпісаць і сталае паляпшэньне гандлёвага білянсу Польшчы. Калі ў восень 1921 г. часова настала адносная стабілізацыя польскай маркі і ўстрыманьне ўзросту дарагавізны—ўсюды запанаваў прамысловы крызыс, беспрацоўе ўзрасло да вялізарных разьмераў.

Здавалася-б аднак, што грашовая інфляцыя так-сама уемна адбіваецца і на капіталістычных прадпрыемствах, выклікаючы недахват абаротных срэдстваў. У запраўднасьці гэта адбіваецца толькі на дробнай прамысловасьці і дробным гандлю. Вялікія капіталісты процiў гэтага ўмеюць надта добра бараніцца. Ніжэй паданая таблічка паказывае, што друкарскія машыны, выкідаючыя на рынак што дзень новыя мільярды марак, ня толькі для пакрыцьця новых бюджэтных дэфіцытаў дзяржавы, але так-сама, і ўсё ў большым разьмеры, для субсыдый прыватнай капіталістычнай гаспадаркі. Бо, як бачым, агульнагаспадарчыя крэдыты ў Польскай Краёвай Пазычковай Касе (ваксалі і пазычкі) ўзрастаюць шыбчэй, чым абег банкнотаў, нават болей,—шыбчэй, чым курс даляра!

| Дата | Абег банкнотау у мільенах марак. | Узрост 31/v 1919-1. | Крэдыты у П. К. К. П. у мільенах марак. | Узрост 31/v 1919 г.-1. | Які проц. банк у абегу станав. крэд. | Курс даляра у марках | Узрост. 31/v 1919 г-1. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 31/v 1919 | 1548,3 | 1 | 42,5 | 1 | 2,6 | 15 | 1 |
| 31/i 1920 | 6,719,9 | 4 | 141,1 | 3 | 2,1 | 135 | 9 |
| 31/i 1921 | 55,079,5 | 36 | 5,140,4 | 121 | 9,3 | 750 | 50 |
| 31/i 1922 | 239,615,3 | 154 | 37,728,5 | 887 | 15,7 | 3,100 | 206 |
| 31/xii 1922 | 793,437,5 | 512 | 181,304,9 | 4266 | 22,8 | 17.250 | 1150 |
| 28/ii 1923 | 1177,300,8 | 760 | 280,647,8 | 6603 | 23,8 | 47.000 | 3,133 |

У той час, калі ў траўні 1919 г. крэдыты ў П. К. К. П. станавілі 2,6% сумы банкнотаў, быўшых у абегу, дык 31 студзеня 1922 г. падняліся да 15,7%, а лютым 1923 г. на 23,8%! З кожных 100 марак, выдрукаваных праз дзяржаву, 24 маркі йдзе ў кішаню капіталістаў! Відавочна, гэта называецца „пазычкай“, але ведаем, што аб гэтых пазычках трэба думаць. У сучасных варунках крэдыты нават кароткатэрміновыя па сутнасьці становяцца запамогай, з якой толькі дробную частку капіталіст зварочывае скарбу.

Бязсумліўна, каб ня гэтыя запамогі, што складаюцца з сотняў мільярдаў марак, шэраг капіталістычных прадпрыемстваў мусіў-бы агранічыць сваю дзейнасьць, альбо нават зусім спыніць яе.

У аканчальным абрахунку шырокія масы працоўнай людносьці пакрываюць гэтыя сотні мільярдаў запамогаў для вялікай прамысловасьці і гандлю. Бо яны ня прыймаюць удзелу ў гэтым падзеле друкуючыхся банкнотаў, а вынікаючы з гэтага спадак вартасьці грошаў, выклікае далейшы ўзрост дарагавізны, за якой ні ў якім выпадку не пасьпевае ўзрост рабочых платаў.

Гэткім чынам, пры дапамозе друкарскай машынкі выціскаецца так званы „эмісыйны падатак“—тыя сотні і тысячы мільярдаў, з якіх 24% ідзе ў кішаню капіталістаў.

Калі-ж прыняць пад увагу, што 80% усіх даходаў састаўляюць пасрэдныя падаткі (ад цукру, тытуню, запалак, сьпірту, мыла і г. д.), якія перадусім лажацца цяжарам на працоўныя клясы, а бюджэтныя недаборы пакрываюцца зноў праз друкаваньне банкнотаў—дык мусім сьцьвердзіць:

1) Буржуазія ўхіляецца ад сплат, хоць-бы толькі грашовых, на карысьць дзяржавы; ўвесь цяжар утрыманьня дзяржаўнага апарату нясе працоўная кляса, ці то праз пасрэдныя падаткі, ці то праз „эмісыйны“ падатак.

2) Буржуазія ня можа ўтрымаць свае прыватнай гаспадаркі без дапамогі скарбу; кошты-ж гэтай скарбовай дапамогі цалком пакрываюць працоўныя клясы.

II.

У гэтай сытуацыі ня толькі няма зьмен да паляпшэньня палажэньня работніцкай клясы, але наадварот, становішча яе што раз пагаршаецца.

Дагэтуль заработкі работнікаў і ўрадоўцаў рэгуляваліся паводлуг паказальніка ўзросту дарагавізны, аблічанага праз Статыстычныя Камісіі.

Ня трэба даказываць, што гэтыя паказальнікі не адпавядалі запраўднаму ўзросту дарагавізны. З гэтым згаджалася нават Хіена і яе прасовыя органы асабліва ў часе выбараў. У працягу апошніх трох месяцаў капіталісты сталі адмаўляцца рэгуляваць заработкі нават паводлуг гэтых паказальнікаў. Так было ў студзені ў мэталургічнай прамысловасьці ў Варшаве, дзе выплацілі 47% заместа 61,79%, гэтак ёсьць у горнай прамысловасьці, дзе згадзіліся на 15% заместа 28%, паказанай у сакавіку, так было ў тэкстыльнай, хімічнай і інш. прамысловасьцях.

Адначасна лодзінскія прамыслоўцы заявілі, што: 1)ня могуць надалей рэгуляваць заработкаў згодна паказальнікаў Статыстычнай Камісіі, 2) ня могуць даваць складак на карысьць Касаў Хворых у тым разьмеры, які плацілі дагэтуль, 3) ня могуць плаціць большых, чым дагэтуль падаткаў на карысьць дзяржаўнага скарбу.

Ясна, што вышэйшыя пастуляты лодзінскіх фабрыкантаў зьяўляюцца выказам імкненьняў усіх капіталістаў, і ўжо ў бліжэйшай будучыне трэба спадзявацца прыступленьня да іх рэалізацыі. Ні сумліваемся так-сама, што гэта зачнецца ад прамысловасьці, што перажывае найвастрэйшы крызыс пад пазорам „ратаваньня“ роднай прамысловасьці. Адначасна пачынае ламацца васьмігадзінны дзень працы: ня істнуе ўжо ў гандлю, ня істнуе для старажоў у капальнях, часткова на жалезных дарогах і г. д.

Сьцьверджаем: маем ужо зьніжку заработнай платы, а ў пэрспэктыве відаць яшчэ большае абніжэньне, зносіцца 8 гадз. рабочы дзень, трэба чакаць яшчэ большага ападаткаваньня працоўных клясаў.

Наступ капіталу ня ёсьць пустой фразай. Можна-б яго выразіць у мільярдах і трыльёнах марак, выцягнутых з кішаня працоўнае масы, ці то праз зьніжку заработнай платы, павялічэньне рабочага дня, ці то праз пасрэдныя падаткі, ці то ў форме эмісыйнага падатку. Можна-б яго ілюстраваць сотнямі самагубстваў з нэндзы, з якімі ўсё часьцей спатыкаемся ў вялікіх работніцкіх асяродках.

Узрост рэакцыі—гэта адзінае срэдства, каб правясьці эканамічнае наступленьне. Каб захаваць сваю гаспадарку шляхам павялічанага да апошніх граніц вызыску, трэба змусіць работніцкую клясу да абсалютнага паслушэнства.

Працоўныя клясы павінны напружыць усе сілы, каб пэратрываць гэты націск. А гэта магчыма толькі пры працівастаўленьні націску капіталу—салідарнасьці пралетарыяту.

## Пабеда рэакцыі.

У Італіі рэакцыя перамагла: „фашысты“, ведзеныя цьвёрдай рукой свайго павадыра Мусоліні, захапілі ўладу ў свае рукі і вось ужо блізу год пануюць у сваей старане, нішчучы ўсе палітычныя і сацыяльныя здабычы італьянскага працоўнага народу.

У Нямеччыне капіталісты, каторыя сваей фінансавай палітыкай давялі дзяржаву да поўнага банкруцтва і пазбавілі дэмакратычны ўрад магчымасьці выпаўняць вэрсальскую мірную умову,—цяпер, калі нямецкую зямлю топчуць францускія і бэльгійскія войскі, працягаюць свае лапы на ўладу, каб і тут разьбіць сілу арганізованага пралетарыяту.

У Францыі чарнасоценскі „нацыянальны блёк“ ужо даўно кіруе ўсімі справамі рэспублікі і прыгатаўляе для Эўропы новыя крывавыя войны, у якіх маніцца загубіць вечна жывую ідэю інтэрнацыянальнае салідарнасьці пралетарыяту.

У Польшчы ўладу ўзялі кулацка-эндэцкія партыі.

У Польшчы праведзеньне зямельнае рэформы ўзялі ў свае рукі паны замляўласьнікі і сяляне кулакі... Сур'ёзная небясьпека пагражае ад іх і работніку і ўсім заваяваньняммястовага і вясковагапралетарыяту. Рэакцыя пачынаецца ў-ва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця.

Вось жменя фактаў, якія сьведчаць, што сусьветная рэакцыя пачынае перамагаць, што супраць усё узрастаючай ідэі салідарнасьці работнікаў усіх краёў і нацыянальнасьцяў паўстаў аб'яднаны сусьветны капітал, які ў гэты мамэнт і можа сьвяткаваць сваю перамогу, Пад той час, як на Усходзе—на землях савецкіх рэспублік—пануе дыктатура пралетарыяту, і Масква становіць сусьветны цэнтр рэвалюцыйнае пралетарскае ідэалёгіі,—на Заходзе Парыж і Бэрлін, хоць ваюючыя між сабой, стараюцца стацца цэнтрамі сусьветнае рэакцыі падчыніць усе народы ўладзе „Залатога Цельца“.

Перамога капіталу, перамога рэакцыі ў заходняэўропэйскіх „дэмакратычных рэспубліках“ ўсё ж не выдаецца нам лішне трывалай. І на заходзе работніцкія масы Італіі, Францыі, Нямеччыны не здаюцца бяз бою. І там ідзе глухое змаганьне пралетарыяту за палітычную ўладу, якое адкрывае дарогу і да перастройкі ўсяго сацыяльнага ладу. І нават у мамэнт калі рэакцыя сьвяткуе свой трыумф, мы бачым знакі, што весьцяць буру,

Газэты паказуюць, што ў Італіі сярод „фашыстаў“ відаць развал. „Фашысты“ ў большасьці сваей—манархісты, але захапіўшы ў свае рукі ўладу, забыліся, што ў Італіі істнуе кароль. І вось пачынаецца ў іх унутраная калатніна, пачынаецца разлад, з якога, ведама, зара пастараюцца скарыстаць сацыялісты.

У Францыі, судзячы паводле незалежнае работніцкае прэсы, так-сама пачынаецца крызіс у „нацыянальным блёку“, які можа даць зусім неспадзяваныя вынікі.

У Нямеччыне, ў адказ на дамаганьні капіталістаў, бачым значны ўзрост камуністычнага руху, бачым пагрозу работнікаў, што яны не дадуць пасадзіць сабе на шыю Штінэса замест скінутага кайзера.

Аднак толькі Польшча йшчэ не выяўляе нічога падобнага. Тут яшчэ і сярод сацыялістаў пануе такі нацыяналістычны настрой, што павадыры іх стрымліваюць работніцкія масы ад усялякіх выступленьняў, тлумачучы ім, што гэта можа пашкодзіць справе незалежнасьці Польшчы. Але няхай пакажа свой запраўдны твар вітасоўска-эндэцкі блёк, няхай паны „надзеляць“ сялян зямлёй так, як гэта ім, паном, выгадней, няхай будзе скасованы васьмігадзінны дзень працы, няхай камянічнікам дадуць права выкідаць на брук сваіх галадаючых кватарантаў, няхай паменшаць лічбу „чыноўніцкіх легіонаў,—і настрой рэзка пераменіцца...

Дык хай сабе рэакцыя трыумфуе, хай сьвяткуе сваю пабеду — мы верым, што пабеда гэная нятрывалая, што палажэньне, якое цяпер стварылася, доўга захавацца ня можа. Падзеі апошніх гадоў — вайна, рэвалюцыя, — вытварылі новы сьветагляд у працоўных масаў, якога ня здолеюць зьмяніць ні Штінэсы, ні іх францускія браты.

**К. Фалькевіч.**

# Палітычныя падзеі.

Львоўская газэта „Жизнь“ так азначае сучаснае міжнароднае палажэньне.

„Вынікі няўдачнага Вэрсальскага „міру“ выяўляюцца ў жыцьці і ўзаемаадносінах эўрапэйскіх дзяржаў. Сыстэматычна крок за крокам падгатаўляецца новая сусьветная вайна, якая накрэсьліць новыя граніцы і груба пасьмеецца над пекнымі прамовамі старога Вільсона. Характэрна толькі тое, што ў апошнія часы ўсе адказныя дзяржаўныя чыньнікі зумысьля падчырківаюць свае мірныя замеры і цьвердзяць, што нясуць і гатовы нясьці нават непасільныя ахвяры на аўтар міру. Але ня гледзячы на гэта мы толькі і чуем аб новых канфліктах, ваенных экспэдыцыях і падрыхтоўках, аб акупацыях і г. д. На заходзе франка-нямецкі канфлікт, на паўночным усходзе англа-савецкі канфлікт, на Блізкім Усходзе турэцка-францускі і турэцка-грэцкі канфлікты, францускія войскі захопліваюць новыя абшары ў Рурскім басэйне, Турцыя зьбірае войскі ў Сырыі, у адказ на гэтае Францыя пасылае туды баявога ген. Вэйгана, Турцыя таксама зьбірае войскі і ў Трацыі, а Грэцыя адказывае ёй тым-жа і абодва вінавацяць адзін другога, Англія пасылае ўвесь свой міжземнаморскі флёт у Дарданэлы, Францыя змабілізавала Польшчу і какетуе з гэтай-жа мэтай з Малою Антантай, разьезджаюць францускія і ангельскія генаралы, падрахтоўваюцца ваенныя сілы цяперашніх і будучых саюзьнікаў і г. д. І атрымліваецца гэткае ўражаньне, што чым больш дыплёматы і прэм'еры гаварадь аб міру, тым больш яны думаюць і падрыхтоўваюцца да вайны“.

**Англія**. Старшыня ангельскіх міністраў Бонар-Лоу падаўся ў адстаўку. Бонар-Лоу быў правадыром кансэрватыўнай партыі і стаў на чале ангельскага ўраду пасьля адстаўкі Лейд-Джоржа, і ўся яго палітыка была скіравана на ўмацаваньне ў Эўропе чорнай рэакцыі і імпэрыялізму; дзякуючы гэтай палітыцы умацавалася гегемонія Францыі на кантынэнце Эўропы, а Польшча атрымала ўсходнія граніцы. Яшчэ большыя заслугі Бонар-Лоу перад эўрапэйскім фашызмам. Толькі дзякуючы спачуцьцю і падтрыманьню ангельскіх кансэрватараў так пышна разьвіўся італьянскі фашызм, а хто-ведае, можа і наш польскі „хьенізм“, які дапяў цяпер улады. Акупацыя Рурскага басэйну так-сама адбылася пры маўклівай згодзе пад маскай „прыхільнага нэйтралітэту“. Апошні канфлікт з Савецкімі Рэспублікамі яўна сьведчыць, што узрост міжнароднай рэакцыі, павінен быць скіраваны проціў гэтай вечнай пагрозы капіталістычнага ладу.

Новы старшыня ўраду Бальдвін так-сама належыць да крайняга крыла кансэрватыстаў і трэба спадзевацца, што палітыка яго мала будзе чым рожніцца ад палітыкі яго папярэдніка. Магчыма, што з прыходам да ўлады Бальдвіна хваля эўрапэйскага фашызму паднімецца да свайго найвысшага пункту,

**Нямеччына.** Нямецкая люднасьць ужо траціць веру ў разьвязаньні заціснутага Вэрсальскім трактатам і францускай акупацыяй на яго шыі вузла пры дапамозе нотаў і таргоў зацікаўленых буржуазных урадаў і яўна імкнецца на лева. У Бэрліне адбыліся камуністычныя дэманстрацыі і войска і паліцыя напрасна стараліся іх зьліквідаваць. Даведзеныя да адчаю работнікі Рурскай вобласьці гатовы на крайнія высілкі. Забастоўка ахапіла ўвесь абшар і акупацыйныя ўлады ня гледзячы на дзікія рэпрэсыі ня могуць справіцца з пашыраючымися забурэньнямі; а фінансавыя нямецкія колы дадумаліся да таго, што пагражаюць францускаму ўраду ўвесьці ў сябе ўрад работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў, калі Францыя не адмовіцца ад сваяго непрымірымага становішча.

**Югаславія**. Саюз сэрбскіх радыкалаў з кансэрватарамі разсыхаецца. Лідэр радыкалаў Радзіч становіцца ў аппазыцыю да ўраду. Яго не здавальняе форма сэрбскай канстытуцыі на чале з каралём. Пашыраюцца рэспубліканскія напрамкі. Балючае харвацкае пытаньне Радзіч прапануе вырашыць шляхам фэдэрацыі.

У **Рурскім басэйне** забастоўка закончылася. У Дартмудзе і Бохуме арыштавана шмат правадыроў камуністычнай партыі. На гор. Дюйсбург наложана акупантамі кантрыбуцыя на суму 100 мільёнаў марак. Бэрлінскія газэты падаюць статыстыку караў і штрафаў, наложаных праз акупантскія ваенныя суды. Згодна гэтых вестак толькі адных урадоўцаў дзяржаўных і камунальных прыгаворана разам на 446 гадоў 8 мес. і 16 дзён вастрогу і 464.945.000 мк. і 2850 франкаў штрафу.

**Літва**. У Дрэздзене падпісана гандлёвая умова паміж Літвою і Нямеччынай. Умову падпісалі Штоккаммэр і Шаўліс.

**Польшча**. У Варшаўскім Сойме 1-га чэрвеня, старшыня новага ўраду Вітас, выступіў з праграмнай прамовай (экспозэ). Характэрнай рысай экспозэ зьяўляецца яго шаблённасьць, і звычайныя бюракратычныя агульныя мейсцы. Адносна да нацыянальных меншасьцей новы ўрад, як заявіў Вітас, пойдзе на спатканьне законным жаданьня нац. менш. аб задаваленьні іх культурных, і нацыянальных патрэбаў. Але трудна верыць у зьдзейсьненьне гэтых абецанак, і Беларускі пасольскі клюб, зусім слушна, адмовіў у падрыманьні новага ўраду. Пасьля дыскусыі, якая мела часамі бурны прабег, адбылося галасаваньне аб даверыі новаму ўраду. За даверые галасавалі: хьена, пяст, частка энпээраў і „украінскія хліборобы“ (226 гал.), проціў: беларусы, украінцы, жыды, немцы, P. P. S. „Wyzwolenie“ і група Донбскага (171 г.)

Начальнік Генаральнага Штабу Маршалак Язэп Пілсудскі, з прычыны ўтварэньня хьенска-пястоўскага ўраду, падаўся ў адстаўку і мае замер зусім пакінуць вайсковую службу.

### Новы адміністратыуны падзел Польшчы.

Камісія адміністратыўнай рэформы, скліканая ген. Сікарскім апрацавала праек новага адміністратыўнага падзелу Польшчы.

Беларускія абшары маюць больш—менш такі падзел: Палескае ваеводзтва, да якога далучаецца з Навагрудзкага ваеводзтва: Навагрудак, Слонім, Баранавічы, Несьвіж, Стаўпцы і часьць гмін Валожынскага пав.

Да Віленшчыны далучаюцца Лідзкі павет рэшта гмін Валожынскага павету і дзьве гміны Стаўпецкага павету.

Згодна праекту Навагрудзкае ваеводзтва зусім касуецца.

Гэтыя адміністратыўныя зьмены маюць быць зьдзейсьнены з 1-га студня 1924 г.

# Англа-савецкі канфлікт.

У першай палове траўня ангельскі ўрад уручыў Савецкаму ўраду ультыматум, ў якім дамагаўся ў працягу 10 дзён поўнага і бязумоўнага задаваленьня ангельскіх дамаганьняў, пагражаючы адазваць свайго прадстаўніка з Масквы і лічыць сябе вольным ад абавязкаў, якія накладае гандлёвы дагавор паміж Англіяй і Сав. Расеяй. У гэтым ультыматуме Савецкі ўрад абвінавачываецца ў прапагандзе супраць брытанцаў у Пэрсіі, Аўганістане, Індыі, Эгіпце і Турцыі, а так-сама ў падтрыманні індыйскіх рэвалюцыянэраў і дамагаецца, каб расейскі ўрад адмовіўся ад гэтай дзейнасьці і выдаліў тых сваіх урадоўцаў, якія вядуць вышэйсказаную дзейнасьць. Апрача таго нота пратэстуе проціў гвалтаў над ангельскімі грамадзянамі, нібыто меўшых мейсца ў Расеі, проціў захвату ангельскіх тралераў у водах Мурманскага вокругу, уплаты кампэнсацыі, а так-сама запэўненьня, што ангельскім рыбалоўным судам ня будзе рабіцца ніякіх перашкодаў у лоўлі рыбы за трохмільнай паласою.

Гэты ультыматум выклікаў страшэннае абурэньне сярод ўсіх слаёў С. С. С. Р., бадай у ва ўсіх гарадох адбыліся мітынгі пратэсту проціў імкненьня ангельскага імпэрыялізму зрабіць з Савецкіх рэспублік сваю новую калёнію. Савецкі урад у адказ выслаў ноту, ў якой перасьцерагае Англію ад разрыву і прапануе вырашыць спрэчныя справы на канфэрэнцыі. Расейская нота паказывае тэндэнцыйнасьць ангельскіх абвінавачываньняў. С.С.С.Р. вядзе на ўсходзе самадзельную палітыку, гэта яго права. Прыязьнь усходніх народаў купляе не золатам, а сваім прынцыповым і рашучым адказам ад захватных мэтадаў сужыцьця. С.С.С.Р. не зьвязаны з Англіяй фармальным дагаворам, каб падтрымоўваць яе інтарэсы на Усходзе, і не зьяўляецца залежнай ад Англіі, дзеля гэтага вымаганьні апошняй ня маюць ніякай праўнай падставы.

Адначасна для перагавораў выехаў у Лёндын Красін. Ня гледзячы на рэзкі тон свайго ультыматуму ангельскі ўрад на дзеле аказаўся гатовым на перагаворы.

Прычыны гэтага трэба шукаць ў той рашучай пазыцыі якую занялі ангельскія работнікі ў гэтым канфлікце. У Лёндыне адбыліся вялізарныя дэманстрацыі незалежнай рабочай партыі, ў часе якіх вынесены пратэст проціў ангельскай ноты з дамаганьнямі ўзяць назад ультыматум і прызнаць поўнасьцю Савецкі ўрад.

На павестку дня палаты гміныў партыя працы паставіла пытыньне аб даверыі ўраду. Урад пасьпяшыў даць выясьненьні, што гатоў на перагаворы з Красінам. З вялікай прамовай у палаце гмін выступіў, Макдональд—лідэр партыі працы,—у якой дамагаўся каб зносіны з С.С.С.Р. ня толькі не парываліся, але прынялі яшчэ болей выразную форму. Рабочыя дабіліся свайго. Ангельскі ўрад рыспачаў перагаворы. Апрача работніцкіх партый за паразуменьне з Расеяй стаяць і лібэралы з Лейд-Джорджам і Асквітам на чале. Частка ангельскай прэсы адкрыта ставіць пытаньне аб прызнаньні Сав. Рэспуб. de jure.

Такім чынам дзякуючы спакойнай выдзержанасьці савецкай дыплёматыі і стойкасьці ангельскіх рабочых, і ангельскай рэакцыі прышлося на разе адступіць. Далейшы прабег перагавораў пакажа ці новы ўрад Бальдвіна пойдзе шляхам мірнага ўладжэньня канфлікту ці прычыніцца да новых міжнародных забурэньняў.

# КАБ НЕ ПЕРАСТАРАЛІСЯ.

Варшаўскі Сойм зваліў Урад ген. Сікорскага. У гэтай акцыі прынялі чынны ўдзел і нашыя беларускія дэпутаты, бо праканаліся, што абяцанкі Сікорскага ніколі ня будуць споўнены ім. Ад Ураду, які ў аднэй руцэ паказывае прывабу нацыянальным меньшасьцям у Польшчы, а ў другой трымае на іх пугу, нічога не дабьешся. Звалілі. Утварыўся Урад польскі цэнтра-правіцовы, з выбарных № № 1 і 8. Ясна, што на гэткі Урад мы і падаўна ня можам пакладаць добрых надзей. Ды і ці будзе трывалым гэты новы Урад? Не дарма-ж зьяўляюцца ужо чуткі аб новых выбарах. Значыцца, можна думаць, што калі новы Урад ня здолае мець падтрыманьня з боку Сойму, дык і самы Сойм можа быць распушчаны. А ужо выбары могуць быць тады абстаўлены так, што будзе зусім запэўнена правіцовая польская большасьць. Зразумелай цяпер зьяўляецца чутка, што эндэцыя ўжо рыхтуе свае сілы да новых выбараў у сьнежні месяцы. Разрахунак іх ясны. На „kresach“ правучаны добра ўсе тыя, хто прыймаў актыўны удзел ў агітацыі за № 16, значыцца, цяпер будуць яны спакойны, а шмат хто з іх сядзяць у турмах; рэшту можна будзе яшчэ пужануць, проці кандыдатаў ў дэпутаты могуць быць выстасаваны абвінавачаньні ў антыпанствовай агітацыі, альбо ў „zdradzie stanu“ — ну і ўсё будзе гладка. „Беларускую“ працу павядуць тады прыхільныя да палякаў białorusini Міткевічы, Дубяйкоўскія, Балаховічы. То-ж не абы на што пачала выходзіць

